Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 76 (127). Вільня, Серада 19 Кастрычніка 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Аналіз вялікай справы.

Як толькі распачаліся выбары, мы адразу адзначылі значэньне і ролю валасных самаўрадаў у беларускім грамадзкім жыцьці. Мы заклікалі Беларускі Народ зразумець значэньне самаўрадаў і скарыстаўшы з магчымасьці выявіць сябе і свае жаданьні. Ці сталася гэтак? — Можам сьцьвердзіць, што — але!...

Беларускі Народ яскрава і выразна паказаў, што змагацца за сваё права, у меру магчымасьці, ён можа і што сьведамасьць сваіх правоў у яго ўжо ёсьць.

Праўда, у рамках *магчымасьці,* абсалютнай перамогі пры выбарах самаўрадаў Беларускаму Народу асягнуць не ўдалося, але-ж свае імкненьні і жаданьні ён выявіў і паказаў, што ў ім ёсьць сьведамасьць і сіла на далейшую барацьбу і змаганьне.

Пераважнай большасьцю на ўсім абшары Заходняй Беларусі—Беларускі Народ выбраў у радныя — сваіх Беларусаў, сваіх гаротных братоў-сялян. Розныя шкурнікі, дэмагогі ды абшарнікі, пралезьлі нязначным лікам.

Праўда, былі пры выбарах і памылкі. У некаторых мясцовасьцях, сяляне Беларусы пападалі на абшарніцкі кручок, бывала, што сяляне выбралі абшарніка, але-ж гэтакія здарэньні капля ў моры... Гэта былі адзіночныя здарэньні.

Выбарная справа найгорш адхінулася ад мэты тагды, калі падыйшла справа да выбараў войтаў!... А чаму? — Таму, што сама справа—найдалей адыходзіла ад выбаршчыкаў. Войта выбірала ўжо рада — 15-10 чалавек, дык ясна, з гэтакаю лічбаю справіцца лягчэй... А дзеля гэтага!... здаралася так, што выбіралі не таго, хто найболей адпавядаў-бы жаданьням жыхарства, а таго, хто падабаўся начальству... Ясна, што да маленькае групкі радных лягчэй падлізацца, даступней заманіць, спраўней можна зрабіць націск. Гэтакіх выпадкаў беларускія газэты запісалі многа, адзначыўшы і такія, дзе праяўлена запраўднае жаданьне Беларускага Народу.

Праўда, польскія газэты падавалі справаздачы, дык па іх весткам выходзіла іначай. Яны пісалі, што на выбарах да самаўрадаў прайшло многа Палякаў. Але, якія гэта Палякі? Пэўна пашпартныя, бо да гэтага часу кожны, хто толькі атрымаў пашпарт, дык адначасна атрымаў і прыпіску да польскае нацыі. І калі, паводле гэтага, рабілася ўрадавае аблічэньне радных, дык ня дзіва, што вышла на карысьць Палякам.

Аднак-жа шырокія грамадзкія колы Палякаў патрактавалі справу іначай...

Адчувалі штучнасьць аблічэньня і ўрадавыя колы... Найлепш усё гэта адзначана прэсаю... Так напрыклад, гумарыстычная часопісь „Муха“ падала гэтакую характэрную карыкатуру: Сымболь Польшчы яна выявіла прыгожай асобаю, на якую ўсадзілі Славяніна (Беларуса-Украінца), Немца і паверх іх Жыда... І калі запытаў нехта тую асобу, хто цябе мучыць, дык яна адказала: „Нацыянальныя меншасьці на Крэсах з прычыны выбараў у самаўрады“. Ці-ж не красамоўна гавора гэты прыклад, што— выбары да самаўрадаў былі адумыснай дэманстрацыяй. Беларускі Народ у гэтай дэманстрацыі паказаў, што ён ня мёртвая мумія, а жывы і магутны арганізм.

Дык у гэтым мы відзім першы наш крок да перамогі!... А цяпер далей і далей!...

Амаль-што па ўсіх мясцовасьцях адбыліся ўжо выбары: цягнуліся яны доўга, бо нешта аж пяць месяцаў... У гэтым таксама відзіцца доля трывогі ўрадавых колаў.

Але гэта памінём, ды зьвернемся да таго, што стаіць на шляху далейшай працы самаўрадаў, стаіць адзінае, але вялізарнае заданьне: выкананьне таго, што ўзята пры ўваходзе ў склад рады. А гэта—парадкаваньне грамадзкае гаспадаркі, абарона ад крыўдаў і несправядлівасьці братоў-сялян.

Селянін працуе на ральлі, а адначасна вымагаюць ад яго выкананьня многа ўсякіх абавязкаў. І вось, валасныя рады павінны глядзець, каб гэтае вымаганьне было справядлівым. Вось гэта і ёсьць тым заданьнем, якое павінны вырашыць валасныя рады.

Грамадзяне радныя! Не забывайце гэтага і помніце, што за праступкі адносна Народу Вы будзеце пакараны, калі на рукою выбаршчыкаў, дык той усемагутнай, сусьветнай справядлівасьцю, якая называецца—Бог!

Скарга.

## Польска-літоўскія справы.

### Высяленьне арыштаваных Літвіноў.

14 кастрычніка г. г. польская адміністрацыйная ўлада выселіла ў Літву некаторых арыштаваных Літвіноў, а іменна: кс. Н. Раштуціса, кс. Я. Корвель-Корвеліса, кс. С. Веньцюса, кс. П. Двораноўскага і гр. гр. Ю. Пангаліса, С. Панганіса, Н. Рыдзеўскага, А. Можэйку, А. Таруніса і М. Барбакайтэ.

Загад улады выканаў віленска-троцкі стараста пан Лукашэвіч. Літвіноў прыняла літоўская пагранічная старожа.

Аднак-жа на другі дзень літоўскія пагранічнікі прынятых імі выселеных з Польшчы Літвіноў даставілі з паваротам на граніцу і хацелі ізноў направіць у Польшчу, пакідаючы ў Літве толькі аднаго кс. Раштуціса. Але-ж Палякі не захацелі прыняць выселеных Літвіноў, дык іх мусіла аставіць у сябе літоўская ўлада, быццам толькі часова, што будзе далей — няведама.

### Зварот Літвы да Лігі Нацыяў.

Літоўскі ўрад, як пішуць віленскія польскія газэты, падаў заяву да Лігі Нацыяў гэтакага зьместу:

„Пану Генэральнаму Сэкрэтару Лігі Нацыяў Друмонду ў Жэнэве.

Пачынаючы ад 4 кастрычніка, польскі ўрад, пад прэтэкстам арыштаў пасярод Палякаў, якія быццам адбываюцца ў Літве, зачыніў на Віленшчыне вучыцельскую сэмінарыю, 45 народных школаў, арыштаваў каля 120 Літвінаў, дырэктароў сярэдніх школаў, ксяндзоў і вучыцялёў.

Польскія часопісі абвясьцілі ліст ад быццам інтэрнаваных у Ворнях 28 польскіх вучыцялёў, якія просяць аб інтэрвэнцыі Польшчы.

Ліст і закіды перасьледаваньня зьяўляюцца выдумкаю. Літоўскі ўрад просіць, прыняць меры абароны нацыянальных меншасьцяў згодна дагавору 28 чэрвеня 1919 г. падпісанага Польшчаю“.

Гэты зварот, як падаюць тыя-ж газэты, стварыў прыкрасьць Лігі Нацыяў.

### Зварот Літвінаў да папскага пасла.

„Kurjer Wileński“ піша, што быццам літоўскі камітэт зьвярнуўся да папскага пасла ў Варшаве з просьбаю інтэрвэнцыі ў справе арыштаў польскім урадам літоўскіх ксяндзоў.

### Лёс арыштаваных.

Некаторых арыштаваных Літвіноў, і не выселеных з Польшчы ўлада перадае ў суд: кс.кс. Міхайлу, Чыбіраса, Яковяніса, Крыштананіса і гр. Казлоўскага. Двох ксяндзоў звольнена.

### Водгукі прэсы.

„Kur. Wil.“ надрукаваў заметку з менскае газэты „Звезда“ з якое відаць, што менскія газэты глядзяць на польска-літоўскія справы, як на ваенную зачэпку Польшчаю адносна да Літвы.

## З Радавай Беларусі.

Менская газэта „Звезда“ падае гэтакую цікавую статыстыку адносна жыхарства Радавай Беларусі. Па дадзеным тэй статыстыкі відаць, што на Беларусі ёсьць 1413 асобаў, якім налічваецца ўжо болей як сто гадоў жыцьця.

Беларускія Календары
НА 1928 ГОД.
Ужо выйшаў з друку і паступіў у прадажу
Календар адрыўны
выданы Т-вам „Пагоня“.
Гэтымі днямі мае выйсьці з друку
Календар кніжка, выданы Беларускім Інстытутам Гаспадаркі і Культуры.
Зьмест календароў вельмі багаты і рожнародны.
Цана будзе абвешчана ў наступным нумары.
ЗАКАЗЫ НА КАЛЕНДАРЫ
просім прысылаць у кнігарні:
1) Кнігарня „Пагоня“—Вільня, Завальная 7.
2) Кнігарня Ст. Станкевіча—Вільня, Вострабрамская 2.

# Гаспадарскі аддзел.

## З практыкі кармленьня кароў у Даніі.

Сочачы за разьвіцьцём у нас, на Беларусі, жывёлагадоўлі—гэтай найкарысьнейшай галіны сельскае гаспадаркі, прыходзіцца прызнацца, што, нягледзячы на спрыяючыя нашай жывёлагадоўлі ўмовам, яно пастаўлена так дрэнна, што не акупае кошту свайго ўтрыманьня. На дойную карову, якая мусіць па карысьці стаяць на першым месцы сярод другіх жывёл, у нас глядзяць як толькі на машыну для вырабу гною, не зважаючы, што гэта „машына“ каштоўна б'е па кішані нашага як вясковага, гэтак і засьцянковага гаспадара.

Чаму гэта? Адказваючы на гэтае пытаньне, трэба падкрэсьліць, што прычынаю тут будзе не эканамічныя ўмовы нашага жыцьця, а галоўным чынам—наша культурная адсталасьць, наша цемра, якая не дае магчымасьці ўявіць сялянам аб тэй карысьці, якая можа даць яго кароўка. Але гэту карысьць наша жывёлагадоўля дасьць толькі тады, калі мы створым лепшыя ўмовы ўтрыманьня нашае скаціны.

Думаецца, што разьвіцьцю ў нас гэтае галіны сельскае гаспадаркі паслужыць знаёмства нашых сялян з кармленьнем кароў у Даніі, дзе гэта работа выконваецца па ўсім правілам вымаганьнем навукі.

Рэдакцыя „Сялянскае Нівы“, ідучы на сустрэчу патрэбам часу, зьмяшчае на старонках сваей часопісі ў працягу некалькі нумароў усе тыя дасягненьні, якія дацкія сяляне здабылі ў практыцы кармленьня кароў за апошнія гады.

Данія—гэта маленькая дзяржава, раськінутая па востравах з поўначы Нямеччыны. Гаспадары Даніі, 50 гадоў таму назад жылі так бедна, што маладыя людзі, здольныя да працы, уцякалі ў другія дзяржавы на работу за вельмі нізкую цану.

Цяпер-жа датчане настолькі цікавяцца сваёй гаспадаркай, што стварылі тыя ўмовы для жыцьця, якія зрабілі дацкіх сялян слаўнымі на ўвесь сьвет. А трэба сказаць, што зямля ў Даніі па якасьці шмат горшая за нашу, на якой датчане паднялі баячныя для нас ураджаі.

Ад чаго-ж у Даніі сталі такія высокія ўраджаі.

Адказ вельмі просты: датчане сталі больш зварачваць увагі на пасеў кармовых траў і кораньплодаў (буракоў), ад чаго сталі больш заводзіць скаціны і лепш угнаіваць свае нівы. Цяпер у Даніі больш чым $^1/_3$ частка ўсей ворнай зямлі занята кармовымі травамі і буракамі. На 3-х дзесяцінах дацкі селянін трымае 1-го каня, 3-х кароў, 3—4 сьвіньні і 25 курэй, і ад усяго гэтага мае большую карысьць. Датчане цяпер не прадаюць хлеба, а ўсе лішкі яго скармліваюць скацінай. Прадаюць-жа толькі масла і мяса, што далёка лепш аплачвае ўсялякае збожжа.

Гаспадаркі ў Даніі больш дробныя, а тым добра падыходзяць да нашых. Пры гэтым цікава адзначыць, што дробныя гаспадаркі даюць большую карысьць з дзесяціны плошчы, чым буйныя. Тлумачыцца гэта тым, што дробны гаспадар заўсёды лепш даглядае сваю гаспадарку сам, чым наянятыя людзі ў вялікіх гаспадарках.

Ня гледзячы на тое, што Данія ў некалькі разоў менш нашае Бацькаўшчыны (разам з Меншчынай), гэтая дзяржава здолела захапіць рынак у Англіі і прадае ёй столькі масла, сколькі ня можа даставіць Аўстрыя і Францыя разам. Сьвіней Данія вывозіць у Англію $^1/_3$ частку таго, што ўвозяць усе іншыя дзяржавы.

Прырода Даніі такая самая бедная, як на нашай Беларусі, а між тым пабагацела толькі ад сялянскай прамысловасьці.

Яшчэ ў 1870 годзе Данія, як ужо вышэй было сказана, была беднай старонкай. Яна прадавала, галоўным чынам, толькі хлеб, і пасьля таго, як хлеб ня стаў радзіць, пачалі шукаць выхаду з гэтага стану і знайшлі яго хутка і вельмі проста: яны зьвярнулі ўвагу на жывёлагадоўлю, пачалі сеяць на полі кормы, ад чаго палепшылі ўтрыманьне скаціны.

Па маей думцы і нам беларусам трэба пачынаць паляпшэньне сваей жывёла-гадоўлі не з пародзістых кароў, на якіх некаторыя гаспадары абмылкова ўскладваюць надзеі, што гэтыя каровы дадуць шмат малака і пры нашым утрыманьні, але перш за ўсё палепшыць культуру нашае жывёлагадоўлі. Не парада тут вінавата, але ўмовы ўтрыманьня нашае скаціны. Трэба назапасіць кормаў, пацяпліць свае хлявы, зрабіць іх сьветлымі—вось першы шаг, на што нам трэба цяпер зьвярнуць увагу.

Але, каб добра карміць кароў, трэба ведаць той матэрыял, якім мы мусім карміць сваю скаціну.

Датчане ўсе кормы дзелюць на наступныя групы: зялёны корм (скошаныя травы, канюшына, зялёная віка і інш.); грубыя кормы (салома, сена, мякіна); вадзяністыя (буракі, турнэпс, бульба) і сытныя (зярнё, засеўкі зярня).

Зялёны корм па сваей сачыстасьці і пажыўнасьці для малочных кароў датчане лічаць самым лепшым. Дацкія сяляне асабліва клапацяцца, каб зялёны корм быў для кароў усё лета і калі карова іх на пашы не даедае, дык яны абавязкава падкармліваюць зялёным кормам дома. Там, дзе выганаў і паствісак няма, або яны дрэнныя—кароў трымаюць у хлявох цэлы год, выпускаючы што-дзень толькі для мацыёну.

Вясною для корму датчане косяць жыта, адно ці з зімовай вікай і падкармліваюць кароў датуль, пакуль не падрасьце канюшына ці другі які корм. Пасьля скосу жыта часамі на гэтым месцы сеюць турнэпс, вікавую мяшанку, ці што іншае.

Канюшына сьвежая зьяўляецца вельмі добрым кормам. Косяць яе толькі тады, калі яна чуць выпусьціць галоўкі і даваць яе толькі сьведама скошаную. Карову да канюшыны трэба перш прывучыць, каб часамі ад яе ня было ўздуцьця жывата, праносу, ці выкіду. Белая і швэцкая канюшына ня такая шкодная. Датчане даюць канюшыны ў дзень да 50 фун. на галаву.

Вікавая мяшанка таксама добры корм, аднак у дзень яе даваць больш 40 ф. шкодна, бо пах малака ад вялікай дачы псуецца, хаця ўздуцьця жывата ня бывае.

Бацьвіне буракоў і іншых кораньплодаў таксама ідзе скаціне ў корм у восень, але гэты корм часта псуе жываты скаціны.

Грубыя кормы, да якіх залічаецца сена, салома, мякіна і інш. маюць таксама вялікаю вагу пры кармленьні кароў, без якіх апошнія не маглі-б правільна пераграўліваць і сытныя кормы. Дацкія сяляне даюць іх ня менш 15 ф. і ня больш 25 ф. на галаву.

З грубых кормаў лепшую вартасьць мае сена розных гатункаў, асабліва са штучных сенажацяў. У Даніі ўсе дрэнныя сенажаці пераробляны ў штучныя, а дзе яшчэ асталіся натуральныя, дык яны палепшаны ўгнаеньнем, баранаваньнем і інш. і даюць да 200 і больш пуд. сена ў год.

Атаўнае сена, калі яно добра сабрана, лічыцца лепшым сенам першага скосу. Масла ад атаўнага сена, хаця і мяккае, але смачнае і прыгожае.

А зімою саломы ў Даніі рэдка скармліваецца каровамі, а большаю часткаю ідзець у подсьціл. Мякіна лепшая для кароў аўсяная, з канюшыны і з лёну. Ад мякіны, асабліва жытняе і ячменнае, бывае часта занячышчэньне жывата ў кароў. Перад скармліваньнем мякіну трэба запарваць, бо шкода ад яе бывае шмат большая чым карысьць. Усіх грубых кормаў, як ужо сказана, даюць ня больш 25 ф. у дзень на карову. З гэтых кормаў ужываецца палова сена і палова яравой саломы і мякіны.

Да вадзяністых кормаў належыць кораньплоды. Прысутнасьць іх для правільнага кармленьня неабходна. Кормы гэтыя павялічваюць удоі кароў зімой. Гэта датчане зразумелі, дзеля чаго не шкадуюць для кораньплодаў ні месца на полі, ні працы каля культуры іх.

Ж.

(Працяг будзе).

# Весткі з Краю.

## Польская культура на „крэсах“.

Сапраўды-ж, паны панасылаўшы нам сваіх каляністых для „rozpowszechnienia kultury polskiej“, так „распаўшэхняць“ у нас зладзейства, што яго ня лёгка будзе выкараніць ізноў.

Сын „пана“ асадніка пражываючага ў быўшым маёнтку Селец ходзіць па вёсках ды вучыць вясковую моладзь красьці. Пакуль што пачынаець з гусей і тымчасам крадзець у сваіх-жа братоў-асаднікаў (сялянская моладзь ня слухае); ну, а там дойдзе і да чаго большага...

Сам-жа асаднік за чарку гарэлкі „наймаецца“ быць сьведкаю ў каго хочаш на судзе ў няведамай яму нават справе.

Ці дзіўная, будзе ўладам, ненавісьць Беларусаў да ўсяго польскага пасьля гэткіх рэчаў? А да асадніцтва і каляністых перадусім?

Як памятаюць найстарэйшыя Беларусы-сяляне ніколі дагэтуль наша старонка ня кішэла гэтак зладзеямі, дый наагул людзьмі нізкага маральнага гатунку, як цяпер у часе напльву „распаўшэхніцяляў“ культуры з Захаду.

Сумнае, страшэннае зьявішча! Якая сіла волі, якая энэргія і стойкасьць у барацьбе, патрэбна ў старонцы, пазбаўленай школы для дзяцей і абсаджанай як саранчою, гэткімі настаўнікамі маралі!

Будзь моцны ў сваей барацьбе, браце-Беларус, і ты пераживеш гэтае ліха, як перажываў шмат іншых!

Бой.

## Не дапускайцеся ашуканства.

(З Пружаншчыны).

Па ўсей Заходняй Беларусі цяпер праводзіцца так-званая ліквідацыя сэрвітутаў. Даволі пабачыць раз, каб пераканацца, які выгляд і характар маюць гэныя ліквідацыі; робіцца ўсё так, каб непакрыўдзіць абшарніка і наадварот—крыўдзіцца яшчэ больш селянін. Часта густа можна пачуць, як ліквідуючы сэрвітут адбіраюцца ад сялян тыя землі, якімі сяляне з прадвеку карысталіся па ўсім правам уласнасьці і аддаюцца абшарніку. Прычынаў на гэта многа ёсьць: утрата дакумэнтаў і г. д. Калі-ж дзеліцца сэрвітут, сялянам адводзіцца найгоршы пяшчаны кавалак нягодны да ўжытку. Абшарнікі рознымі ашуканствамі ды баламуцтвамі заўсёды зробяць так, як ім выгадна, а селянін ня ведаючы як пакіравацца астаецца пакрыўджаным.

Вось-жа, маючы перадусім на ўвазе помач братом-сялянам — рэдакцыя „Сялянскае Нівы“ на старонках свае газэты друкавала ў свой час тыя законы і ўставы, якія датычацца падзелу сэрвітутаў. Хоць гэтыя законы ня вельмі карысныя сялянам, але ўсё-ж такі, калі б пры іх выкананьні не дапусьціцца да абману, дык было-б меней крыўды. А дзеля гэтага, трэба пільнавацца, каб усё рабілася згодна закону. У выпадку незразуменьня закону трэба зьвяртацца да беларускіх установаў за парадаю.

Раджу пры гэтым, братом-сялянам нідзе і ніколі ня іcьці з абшарнікам на ніякія паразуменьні, ня рабіць з імі ніякіх „палюбоўных“ дагавораў. Трэба заўсёды памятаць, што пры ўсялякай згодзе абшарнік скрыўдзіць селяніна. Толькі ўпорнае няломнае арганізаванае змаганьне на падставе істнуючых (хоць таксама скупых для сялян) уставаў, трэбаваньне свайго — можа мець мейсца пры падзеле сэрвітутаў, без ніякіх „палюбоўных“ паразуменьняў. Ня трэба баяцца барацьбы, цяганіны па судох; трэба толькі быць зарганізованымі і перамога будзе наша.

Ня трэба дапускаць да падзелу тыя кавалачкі зямлі, якою карысталіся як уласнасьцю сяляне.

Ня ідзеце-ж браты на згоду! Дамагайцеся свайго!

Полымя.

## Усюды крыўдзяць.

Як толькі нявыдумваюць, і якія хітрыкі ня робяць гэтыя ўсялякія народныя апівошы, каб лягчэй эксплятаваць і надужываць крывавую працу; а чыю? зноў такі гаротнага цёмнага сярмяжніка, які па сваей цемнаце лёгка паддаецца пад усялякія ашуканствы і надужыцьці над ім. А з гэтага толькі і жывуць усялякія чорныя груганы, карацей сказаць, будуюць сваё шчасьце на няшчасьці іншых. Вось напрыклад, у Івацэвічах, Борко-Гічыцкай воласьці, ёсьць фірма эксплятацый лесу „Кругман“. Даючы заработак усім за вывазку лесу, будульцу (гэта яшчэ ўзімку), паміж іншым сваім парадкам, так рэжуць на меры, што горш ня можа быць. Напрыклад, штука будзе 100 цэнт. кубічных, то на ёй пішуць 60—70 і так на каждай. І за гэт'кія крыўды над працоўным людам не нясуць ніякай адказнасьці перад уладаю, хоць і зьвярталіся да паліцыі ў гэтай справе. А цяпер ашукваюць гэтыя сьмярдзючыя эксплятатары працоўны люд на вазе. Возяць на пуды папяроўку, дык кожнага вазака ашукаюць на вазе на пудаў 10—12. Важаць на кілі, а плацяць ад пуда. Дык ня кожны вазак патрапіць праверыць прыёмшчыка. Вось і зарабі на які фунт газы ці солі!

Малахіт.

ВЫЙШАЎ З ЛІТАГРАФІІ І ПРАДАЕЦЦА
ў беларускіх кнігарнях

партрэт Беларускага Народнага Паэта
ЯНКІ КУПАЛЫ

Усе беларускія арганізацыі: гурткі культурна-прасьветных установаў, бібліатэчкі і паасобныя дзеячы і грамадзяне павінны мець партрэт найвялікшага беларускага песьняра.

ЦАНА партрэту без перасылкі—1 зл.

Заказы прысылайце на адрэс: Wilno, Завальная 7, Беларуская Кнігарня „Пагоня“.

*СЯЛЯНЕ! Прысылайце падпіску, падахвочвайце другіх прысылаць грошы і пашырайце „Сялянскую Ніву!“*

Рэдактар і выдавец А. Герасімчук. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.